# ЯШЧЭ РАЗ ПРА НАЗВЫ ВЁСАК І ВУЛІЦ

Хто не ведае савецкага Палесся?! Бярозавыя гаі і стромкія бары, змешаныя лясы і пералескі, паўнаводныя рэкі з шырокімі паплавамі паабапал, блакітныя люстэркі азёр, акаймаваныя пышнай зелянінай, бясконцыя стрэлы селавых дарог і шашы ў бярозавых прысадах і калгасныя паселішчы ў зеляніне садоў, магутныя заводы і фабрыкі. Такім выглядае сёння Палескі край.

Толькі пры Савецкай уладзе палешукі здзейснілі сваю векавую мару — ператварылі адвечныя пяскі і балоты ў квітнеючыя калгасныя палі і лугі. Даўно адышлі ў нябыт беднасць і бяспраўе, голад і нястача. Заможным стала жыццё палешукоў.

А вось на шыльдах і прыдарожных знаках яшчэ і сёння прачытаеш старыя назвы вёсак: Караеды, Махаеды, Бяднішкі, у якіх адлюстроўвалася беднае, гаротнае жыццё селяніна дарэвалюцыйнай вёскі. А ў ваколіцах Пінска ёсць вёска Бясхлебічы, а ля Баранавіч — Новая Мыш.

...Я ехаў у камандзіроўку. На стыках рэек мерна пастуквалі колы, за вокнамі мільгалі тэлеграфныя слупы.

Гутарка, як той паўнаводны ручай, не заціхала ні на хвіліну. Пасажыры знаёміліся, дзяліліся навінамі.

— Да якой станцыі едзеце? — запытаўся шыракаплечы юнак у дзяўчыны, якая сядзела побач.

— На трэцім прыпынку выходзім.

— А якая назва?

Дзяўчына пачырванела, але ўсё ж набралася смеласці і сказала, што яна едзе да станцыі Мошны.

— Даўно пара падумаць над тым, каб замяніць непрыгожыя, зняважлівыя назвы многіх населеных пунктаў, — загаварыў пасажыр.

І сапраўды, у рэспубліцы ёсць нямала населеных пунктаў, якія носяць назвы Глупікі (у адным Бялыніцкім раёне аж дзве вёскі), Казулічы, Дурычы, Казлы, Абаб'е, Канюхі, Пустышкі, Бібікі, Глухавічы, Казловічы, Грабішкі, Караўчыцы, Хвастовічы, Даўбені, Свіное, Ваўкі, Бабылі, Быкі, Цялуша, Крываносы...

А чаго варта назва Гультаёўшчына? Працаўнікі гэтай вёскі змагаюцца за выкананне велічных планаў камуністычнага будаўніцтва, за стварэнне ў краіне багацця сельскагаспадарчай прадукцыі. На шырокіх палетках яны вырошчваюць багатыя ўраджаі. А назва населенага пункта зневажае савецкага чалавека-працаўніка.

Усе мы радуемся поспехам членаў сельгасарцелі «Рассвет» Кіраўскага раёна, дзе старшынёй Герой Савецкага Саюза і Герой Сацыялістычнай Працы К. П. Арлоўскі. Слава аб гэтай гаспадарцы ідзе па ўсёй краіне. Заможна і культурна жывуць рассветаўскія калгаснікі. Цэнтральная сядзіба калгаса вёска Мышкавічы не ўступае гарадскому пасёлку. Гэта вельмі радасна. Толькі вось назва цэнтра арцелі не вельмі падабаецца рассветаўцам.

Рэдка хто не бываў у раёне нарачанскіх лясоў і вадаёмаў. Да гэтага выключнага па сваёй прыгажосці кутка рэспублікі, як бы наўмысля створанага прыродай на ўцеху чалавеку, прыходзяць пеша, прыязджаюць на аўтамабілях і аўтобусах турысты, паляўнічыя, рыбаловы і юныя следапыты з Мінска і Прыбалтыйскіх рэспублік, з Ленінграда і Масквы, з Польскай Народнай Рэспублікі і іншых краін народнай дэмакратыі.

І ў гэтым маляўнічым кутку напаткаеш нямала недарэчных назваў вёсак. Побач з Нараччу размясціўся цэнтр сельсавета, які носіць назву Кабыльнікі.

Мінчане добра памятаюць, што яшчэ зусім нядаўна ў беларускай сталіцы была Камароўка. Цяпер тут адна з найпрыгажэйшых плошчаў горада, якая носіць імя народнага паэта Беларусі Я. Коласа. Няма ўжо і Камароўскай вуліцы. Але ёсць яшчэ ў Мінску Слепня, Сляпянка.

Бабавозаўшчына, Скулаўка, Затычына, Рылаўшчына, Няўмывайкі — такія назвы -мянушкі мелі вёскі Мінскага раёна. А зараз яны — Прымор'е, Першамайская, Зарэчная, Дружба, Арэхаўка.

За апошнія гады ў рэспубліцы выраслі новыя гарады і рабочыя пасёлкі. І радуешся, што ўсе яны атрымалі прыгожыя назвы. У Парыцкім раёне пабудавана магутнае торфапрадпрыемства «Васілевічы-2» — качагарка Васілевіцкай ДРЭС. Рабочы пасёлак тарфянікаў назван Сасновым Борам. Вакол яго густой сцяной стаіць сасновы лес. Хораша гучыць гэтая назва! Ды і іншыя назвы населеных пунктаў — Дуброва, Загор'е, Сасноўка, Зарэчча, Заполле, Залессе, звязаныя з прыродай, гучаць вельмі прыемна.

А ўзяць Салігорск... Горад беларускіх шахцёраў. Гэта назва гучыць не толькі хораша, але і выяўляе сутнасць працы людзей гэтага горада.

Пытанне аб змяненні старых назваў населеных пунктаў, вуліц, якія зневажаюць годнасць савецкіх людзей, заслугоўвае самай сур'ёзнай увагі. У назвах населенных пунктаў, вуліц, калгасаў, саўгасаў неабходна ўвекавечыць выдатныя падзеі ў жыцці нашага сацыялістычнага грамадства, імёны і прозвішчы праслаўленых сыноў і дачок народа.

Добрым прыкладам у гэтай справе можа служыць Барысаў. Шырокія, у зеляніне дрэў яго вуліцы. І многія з іх носяць імёны людзей, жыццё і справы якіх былі цесна звязаны з Барысаўшчынай, — Міхала Марозава, Паўла Камінскага, Сцяпана Супруна, Рубэна Ібаруры, Люсі Чалоўскай, Паўла Рака, Аляксандра Пятраева, Аляксея Данілава і іншых.

У Акцябрскім раёне, што на Гомельшчыне, у гады грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў актыўна дзейнічалі партызаны. Шырока вядомы сваімі баявымі справамі ў гады грамадзянскай вайны партызанскія атрады Максіма Філімонавіча Уса і Максіма Архіпавіча Ляўкова, якія аддалі сваё жыццё за нашу Радзіму. У барацьбе з ворагамі Савецкай улады ў гады грамадзянскай вайны загінуў Ануфрый Архіпавіч Драпеза.

Працоўныя Акцябрскага раёна ніколі не забудуць камуніста Аляксандра Раманавіча Салаўя, які загінуў у 1919 годзе ў баях з белапалякамі. Ён быў арганізатарам Савецкай улады на Акцябршчыне, доўгі час узначальваў падпольны рэўком, нёс у масы праўдзівае слова партыі.

Усе гэтыя людзі заслугоўваюць таго, каб іх імёны былі ўвекавечаны.

Нельга сказаць, што па ўвекавечанню памяці змагароў за Савецкую ўладу ў Акцябрскім раёне нічога не робіцца. Адной з чыгуначных станцый тут прысвоена імя першага партызанскага камандзіра Ціхана Бумажкова. Яго імем названа і адна з вуліц раённага цэнтра.

Але гэтага надзвычай мала. У раёне ёсць вёскі Воспін, Курын, Сапейкава, Чорныя Брады. Ёсць і Качай-балота. Раней гэтую вёску з усіх бакоў акружалі непраходныя балоты. У багне гінула жывёла, сам чалавек мог бязбоязна ступіць сюды толькі зімой, калі балота пакрыецца тоўстым ільдом. А цяпер там, дзе раслі толькі чарот, лаза ды асака, буйным коласам наліваецца збажына, цягнецца да сонца шыракалістая кукуруза, нібы лес, растуць каноплі. Але назва вёскі ранейшая. А чаму б не прысвоіць гэтым населеным пунктам назвы, у якіх увекавечыць памяць змагароў за ўстанаўленне Савецкай улады?

Край зялёных лясоў і блакітных азёр, авеяны рамантычнай рэвалюцыйных бітваў, рэспубліка партызанскай доблесці і працоўнай славы, рэспубліка развітай індустрыі, буйнага сацыялістычнага земляробства і высокай культуры жыве працавітым стваральным жыццём. Няхай жа мілагучная назва вёскі і калгаса, прыгожая назва вуліцы, на якой мы гадаваліся і ўзраслі, дапаўняюць прыгажосць усяго нашага жыцця, адлюстроўваюць подых нашага часу.

**М. ПРЫС,**
тэхнік-будаўнік Рэспубліканскага курортнага ўпраўлення прафсаюзаў.

**МОЙ РОДНЫ МІНСК**

Малюнак студэнта Тэатральна-мастацкага інстытута Я. САНЬКО.

# Янка Купала на Букавіне

**ЛІСТ З УКРАІНЫ**

Народны паэт Беларусі Янка Купала, чыё імя блізкае і роднае ўсім народам нашай Айчыны, усяму прагрэсіўнаму чалавецтву, ніколі ў сваім жыцці не быў на Букавіне, але яго творчасць шырока вядома тут. Праз тры з палавінай гады пасля апублікавання яго першага верша «Мужык» у газеце «Северо-Западный край» на заходнеўкраінскіх землях выходзяць у перакладзе ўкраінскіх паэтаў лепшыя творы Янкі Купалы. Першым пераклады рабіў М. Шапавал, надрукаваўшы ў «Літературно-Науковому Віснику» за 1909 год у кніжцы IX вершы Максіма Багдановіча «Над магілаю» і «Прыйдзе вясна», Янкі Купалы «Спі, браце» і «Вольха». Алена Пчолка ў 1910 годзе ў лісце да Л. Старыцкай-Чарняхоўскай пісала: «Нядаўна ў мае рукі трапіў цікавы зборнічак вершаў беларускага паэта Янкі Купалы. Піша проста, шчыра і задушэўна. Ён і надалей будзе развіваць свой паэтычны талент у тым жа духу, мне здаецца, з яго можа выйсці сапраўдны народны паэт». Пчолка мае на ўвазе купалаўскі зборнік «Гусляр».

Характэрна, што ў той жа самы перыяд свежы голас маладога беларускага паэта адзначыў і вялікі пісьменнік зямлі рускай Максім Горкі.

За год да пачатку першай сусветнай вайны 1914—1918 гг. львоўскі пісьменнік і літаратуразнаўца Юрый Кміт у газеце «Украініше рундшау», якая выходзіла на нямецкай мове ў Відні, у літаратурным аглядзе навін славянскіх літаратур пералічвае найлепшыя творы беларускіх пісьменнікаў. Сярод іх называюцца камедыі Янкі Купалы «Паўлінка» і «Прымакі», паэма «Сон на кургане».

Больш шырокі доступ твораў беларускага паэта стаў магчымы перад пачаткам першай сусветнай вайны, калі на Букавіну прыйшлі рускія войскі. Поруч з бальшавіцкімі пракламацыямі, якія распаўсюджваліся сярод насельніцтва Паўночнай Букавіны, можна было сустрэць у перакладзе на ўкраінскую і рускую мовы рэвалюцыйныя вершы Янкі Купалы і Якуба Коласа, як, напрыклад, «Ворагам», «Наша доля», «Канец смутак!», «Бацькаўшчына» і інш. У 1919 годзе на Букавіне была шырока вядома купалаўская паэма «Бандароўна», пераклад якой зрабіў М. Лазінскі. Гэтая паэма была блізкая і зразумелая ўкраінцам Прыкарпацця.

Румына-баярская акупацыя Паўночнай Букавіны вельмі перашкодзіла распаўсюджванню паэзіі Янкі Купалы. У 1923 годзе некалькі яго вершаў са зборніка «Спадчына» з'явіліся ў чарнавіцкай газеце «Новы час». Гэта былі не лепшыя вершы вялікага народнага паэта. У іх відаць была душэўная раздвоенасць, чужыя ідэйныя ўплывы, якія ў той час пераадольваў Купала.

Пачынаючы з 1929 года, калі Янка Купала быў выбраны правадзейным членам Акадэміі навук Украінскай ССР, творы беларускага народнага паэта пранікалі на Букавіну толькі нелегальна. Пераклады з іх амаль не рабіліся. Тлумачыцца гэта, перш за ўсё, тым, што ўкраінскае слова тут было забаронена акупантамі.

Шырокі доступ твораў беларускага паэта да букавінцаў стаў магчымы толькі пасля чэрвеньскіх дзён 1940 года, калі ўкраінцы Паўночнай Букавіны ўз'ядналіся з адзінакроўнымі братамі на Усходзе.

Букавінцы любяць творы Янкі Купалы. У грозныя гады варожай акупацыі яны натхнялі народ на барацьбу за лепшае жыццё, усялялі веру, што вызваленая ад кайданаў людская праца створыць на зямлі небывалыя цуды. Як пацвярджэнне гэтых думак — росквіт у сузор'і савецкіх рэспублік Украіны і Беларусі.

**Ів. ГРЫШЫН-ГРЫШЧУК.**

# «Сан-луі» над Ваўкавыскам

Ваўкавыск—горад не маленькі. Тым не менш, як толькі ў ім паяўляецца які-небудзь махляр, гэта становіцца вядома адразу ўсім. Зразумела, людзі не абыякава адносяцца да такіх. Яны жорстка крытыкуюць гультаёў, патрабуюць прыцягнуць да адказнасці тых, хто парушае грамадскі парадак. Так, напрыклад, калі стала вядома, што грамадзянка Н. Штэйнер пляткарнічае, грамадскасць сказала: будзем судзіць. Нячыстага на руку М. Лісунова папярэдзілі: будзеш красці—адправім у папраўча-працоўную калонію.

Не прайшло незаўважаным паяўленне ў Ваўкавыску Г. Шпаковіча. Грамадскасць пазнала адразу: махляр. Людзі не памыліліся. Такой думкі пра Шпаковіча яны і сёння. Але вось што датычыць работнікаў райвыканкома... Яны ў думках разышліся. Загадчык раённага аддзела культуры тав. Дзідзенка выказаўся прыкладна так:

— Добры арганізатар, але... Ён, вядома, вінаваты...

У райфінаддзеле сказалі:

— Хапуга першай рукі. Судзіць трэба.

А загадчык райана тав. Кісялёў прыжмурыў вочы, у якіх я ўгледзеў папрок, быццам зрабіў несумленна, што прыехаў у Ваўкавыск, і спытаў:

— Фельетон прыехалі пісаць? Глупства ўсё гэта. Мы ўдзячны яму. Шпаковіч нам усю самадзейнасць на ногі паставіў. Дай бог, каб у нас, у Ваўкавыску, было яшчэ дзесяць такіх!—з запалам казаў тав. Кісялёў.

Пазней мы зразумелі, што Кісялёў, мабыць, не так абараняў Шпаковіча, як гонар сваёй установы, у якой Шпаковіч загадвае фільматэкай, па сумяшчэнню кіруючы гуртком юных кінамеханікаў у Палацы піянераў. Цяпер акрамя таго, яго часова прызначылі начальнікам гарадскога піянерскага лагера.

З'явіўшыся ў Ваўкавыску, Г. Шпаковіч вечарамі ў вольны час браў трубу і па тры гадзіны запар дзьмуў у яе, пакуль не навучыўся сяк-так іграць. Выступаў ён у складзе аркестра на адкрытай пляцоўцы парку. Ад Шпаковіча слухач не патрабаваў вялікага прафесіянальнага майстэрства, бо разумеў, што гэта самадзейнасць, але раіў яму вучыцца, павышаць узровень.

Гэтая парада па-сапраўднаму стала патрэбнай Шпаковічу ў той дзень, калі ён пачуў нейкі прымітыўны факстрот «Сан-луі». З таго часу ён страціў спакой. З таго часу самадзейнасць скончылася — кожны крок, кожная думка былі накіраваны на тое, каб выкалаціць рубель на «Сан-луі».

Шпаковіч тэрмінова сабраў так званы эстрадны аркестр і пачаў шукаць даверлівых. Знайшоў іх на ліцейна-механічным заводзе. Там заключылі дагавор з саматужнымі артыстамі на такіх прыблізна ўмовах: для рабочых іграць бясплатна. А сяды-тады памяшканне клуба—у распараджэнне аркестра. Гэта значыць: грошы ў кішэні трубачоў. Грошай было мала—клуб маленькі. Завод кінулі і апынуліся на аўтабазе № 6. Тут на такіх умовах: вадзіцелям іграць бясплатна. За гэта—машыну для раз'ездаў па раёну. Пляснулі па руках. Доўгі час былі ўлюбёныя адзін ў аднаго. Любоў скончылася судом. Шпаковіч прысвоіў трубу коштам у 110 рублёў і, падняўшы на ногі свой табар, уцёк з аўтабазы ў клуб чыгуначнікаў. (Што датычыць трубы, яе Шпаковіч не аддаваў два гады. Толькі месяц назад ён аплаціў аўтабазе яе кошт).

У клубе чыгуначнікаў была заключана ўмова па таму ж прынцыпу: вам — дарэмна, нам — памяшканне.

У гэты перыяд, як кажуць гісторыкі, дзейнасць эстраднага аркестра Шпаковіча дасягнула найбольшага росквіту. З краю ў край ваўкавыскай зямлі вандравала балаганная арцель і прапаноўвала калгасам, саўгасам. дамам адпачынку танцы. Умовы такія: 40 капеек адзін уваходны білет— і танцуй да страты прытомнасці. Была моладзь, якая пярэчыла: адкуль, маўляў, такі кошт? У Ваўкавыску білет на танцавальную пляцоўку каштуе 30 капеек, а гэтыя бяруць сорак. І чулі ў адказ гандлярскі прынцып: свая дудка, хачу—іграю. Ды, уласна кажучы, цяжка было што-небудзь сказаць дударам. Усё рабілася як след. Білеты былі надрукаваныя. На білетах цана. Каля ўваходу стаяў кантралёр.

Дабраўся балаган і да дома адпачынку «Рось». Там Шпаковіч заключыў дагавор, паводле якога ён абавязаўся два разы ў месяц праводзіць вечары танцаў, а дырэкцыя дома адпачынку павінна выплачваць за кожны вечар па 35 рублёў. Але як плаціць прыватным асобам? Шпаковіч знайшоў выйсце: заказаў сваім дударам у райпрамкамбінаце касцюмы, за якія разлічваўся дом адпачынку праз аддзяленне Дзяржбанка. Такім чынам у райпрамкабінат было пералічана 1 846 рублёў 20 кап.

Нельга сказаць, што эстрадны аркестр зусім адышоў ад грамадскага жыцця раёна. Гэтага Шпаковіч зрабіць не мог па простых меркаваннях: хто ж будзе цярпець балаганшчыкаў! І яго аркестр прымаў удзел у абласных аглядах мастацкай самадзейнасці. На адным аглядзе ён быў прадстаўлены як аркестр ліцейна-механічнага завода, на другім—аркестр аўтабазы № 6. Пачаўся агляд самадзейнасці настаўнікаў—і балаган зноў на сцэне ў поўным складзе.

У маі гэтага года дудары пацярпелі крушэнне. На танцы ў клуб чыгуначнікаў, як снег, з'явіліся работнікі райфо. Яны ўстанавілі, што білеты на ўваход у залу былі не зацверджанага ўзору і набыты Шпаковічам махлярскім спосабам. Такіх білетаў у гэты дзень было прадана 169—усяго на суму 67 руб. 60 кап. Як сведчыць касір клуба Л. Балейка, кожны раз пасля танцаў усю выручку забіралі Шпаковіч і яго каміваяжор Л. Скалабан. Высветлілася, што толькі ў клубе чыгуначнікаў дудары выручылі на білетах 5 721 руб. Як сведчаць сакратар партыйнай арганізацыі саўгаса «Рось» тав. Собалеў і загадчык клуба цэментнага завода «Перамога» тав. Пісарэнка, дудары і там не раз прадавалі падобныя білеты.

Каля месяца пра аркестр нічога не было чуваць. Раптам ён зноў з'явіўся на пляцоўцы гарадскога парку культуры. У мінулую нядзелю вечарам у цішыню парку ўварваліся нейкія шалёныя гукі.

— «Сан-луі!», — пазнала моладзь. — Жывы курылка!..

На пляцоўцы адразу з'явіліся выфранчаныя юнакі, падстрыжаныя «вожыкам», у чорных касцюмах, з матылямі пад каўнерыкамі. Яны прытупвалі на адным месцы, хістаючыся ў бакі. Ім не трэба было большай асалоды, чым бачыць, як, паклаўшы саксафон, Шпаковіч браў муштук інструмента ў рот і, прыкрыўшы яго далонню, пачынаў па-кашачы: «Мяўмяў...»

Але цяпер гэты, з дазволу сказаць, канцэрт быў узаконены дагаворам і замацаваны круглай пячаткай раённага аддзела культуры. Дагавор быў у кішэні Шпаковіча і ў ім гаварылася: 25 працэнтаў збору—дударам.

Не будзем гаварыць, што выкануе майстэрства ўдзельнікаў эстраднага аркестра вельмі нізкае. Пра яго трапна сказаў адзін жыхар Ваўкавыска: «Ёсць рытм, ёсць шум. Няма толькі музыкі». Здзіўляе, як магло здарыцца, што ў раёне доўгі час гастраліравалі прыватныя асобы? Здзіўляе, што ў раённым аддзеле культуры не праслухоўваюць рэпертуару аркестра, і да сённяшняга дня танцавальная пляцоўка два разы на тыдзень стогне ад старамодных факстротаў і дзікунскага «Сан-луі». І ўвогуле здзіўляе, як да гэтага часу не спагналі са Шпаковіча ўкрадзеныя грошы, ну, і само сабою зразумела, не прыцягнулі да адказнасці за махлярства?

Раніцаю каля гасцініцы мяне чакаў Шпаковіч. Ён доўга і нудна мармытаў:

— Мне самадзейнасць не дае спакою. Я люблю яе... Не рабіце мне непрыемнасцей...

Такую натуру маюць усе хапугі. Пакуль махлююць—адважныя. Як толькі даводзіцца адказваць—пачынаюць енчыць. Гэта зразумела. Але вось чаму енчыць загадчык раённага аддзела асветы тав. Кісялёў?..

**І. КЛАЗ.**

# НЕ Ў ПАВУЧАННЕ, А Ў БЛАКНОТ...

*Калі вы задумалі кнігу, але можаце яе не пісаць, дык не пішыце*

Л. Талстой

*Лірыка пачынаецца не там, дзе паэт хвалюецца, а там, дзе ён хвалюе іншых.*

Сучасны крытык

*Гора ў каханні і ў мастацтве таму, хто гаворыць усё!*

Бальзак

*Калі ў часе прадстаўлення тэатра лялек гледачы бачаць руку гаспадара... —знаўцы пакідаюць залу. Так абстаіць і з раманістам і яго лялькамі.*

Бальзак

*Дрэнны бок агульнага месца заключаецца ў тым, што мы вымаўляем яго, не ўсведамляючы дакладна яго сэнсу.*

Ф. Корш

*Талент любіць прастату, а вострасловае—блытаніну.*

Лесінг

*Загаловак—не меню абеду. Чым менш ён раскрывае змест п'есы, тым ён лепшы.*

Лесінг

## ЭСТАФЕТА ІДЗЕ

У гонар XXII з'езда КПСС у Барысаўскім раёне пачалася эстафета «За культуру роднага сяла». Асноўнымі задачамі яе з'яўляюцца выяўленне і пашырэнне новых форм культурна-масавай работы, далейшае развіццё мастацкай самадзейнасці, барацьба за добраўпарадкаванне калгасных сёл і саўгасных пасёлкаў.

Першаму эстафета была ўручана клубу калгаса «Чырвоная Беларусь». Гэта адна з лепшых культурна-асветных устаноў раёна. На вечары, прысвечаным уручэнню эстафеты, з дакладам «Праца — крыніца радасці і натхнення» выступіла выкладчыца мясцовай школы Л. Быкава. Аб сваіх працоўных поспехах у перадз'ездаўскім спаборніцтве расказалі перадавыя даяркі З. Чарэйская і Л. Клімковіч. У заключэнне паказалі сваё майстэрства сельскія артысты.

Эстафета працягнецца да XXII з'езда партыі і за гэты час пабывае ў 34 сельскіх клубах раёна.

## НА ДАЧЫ

ЛІРЫКА-САТЫРЫКА

Я стрэльбу ўзяў у рукі,
На варце я стаю.
Ліпнёвай ночы гукі
Пякуць душу маю.
Ах, не зарніцаў сполахі,
Не бліскавічны гром,
А стоеныя шолахі
Пякуць мяне агнём!

Нядаўна меў я ўдачу: —
Ад шчасця год не піў! —
Нядаўна сходна дачу
Я ў жуліка купіў.
Усё ў ёй шчодра, планава —
І сад, і агарод.
Ды ёсць адна загана:
Завельмі нізкі плот.

Хто ні захоча толькі —
Яго перасігне.
А тут даспела колькі
Клубніц ужо ў мяне.
А колькі вішняў спее,
А яблыкаў, а бэр!
Таму і сэрца млее.
Таму й не сплю цяпер.

Я стрэльбу ўзяў у рукі.
На варце я стаю.
Ліпнёвай ночы гукі
Пякуць душу маю.
Ах, не зарніцаў сполахі,
Не бліскавічны гром,
А стоеныя шолахі
Пякуць мяне агнём!

Вунь што за дзіўны смех там?
А што за шэпт такі?
Мо' ўжо на градах нехта?
Мо' ломіць хто замкі?
Мо' хлапчукі ў ранеты
Залезлі — трушчаць сад?
Эх, праўда, дзе ты, дзе ты —
Эх, мне б тут аўтамат!

Стаю і, каб не чулі,
Шапчу: «Бяда, бяда...
Ах, каб ты спрахнуў, жулік,
Што дачу мне прадаў.
Украўшы ўсё на дачу,
Няўжо ты, абармот,
Не мог яшчэ ў прыдачу
Украсці й добры плот?!»

Тады б я спаў, упэўнены,
Што цэла ўсё дабро.
А так — вартуй да пеўняў
Ды рві сваё нутро.
Не спі, цягай камплекцыю,
Глядзі угору, ўніз...
А заўтра ж мне йшчэ лекцыю
Чытаць пра камунізм!..

Кастусь КІРЭЕНКА

# І ДОБРАЙ ПАРАДАЙ І АСАБІСТЫМ ПРЫКЛАДАМ

Гэта было ў канцы красавіка. У нядзелю многія наведвальнікі навагрудскага калгаснага рынку прыемна здзівіліся: яны ўпершыню ўбачылі на відным месцы вялікі латок з кнігамі. Прадаваў кнігі таваразнаўца райспажыўсаюза Станіслаў Русілевіч. На першы погляд дзіўна стала, як гэта таваразнаўца і раптам сам прадае літаратуру.

Але калі я бліжэй пазнаёміўся з гэтым актыўным прапагандыстам кнігі, стаў зразумелы яго ўчынак. Дзе можна лепш вывучыць попыт на кнігу, як не ў час непасрэдных сустрэч з пакупніком.

У Навагрудку за апошні час кнігі сталі прадавацца ў кінатэатры «Радзіма», райвыканкоме, гарадскім парку, у выхадныя дні — на возеры Свіцязь, куды прыязджаюць адпачываць гараджане.

У кніжным аддзеле Навагрудскага культмага адкрыт свабодны доступ да прылаўкаў, літаратура сістэматызавана па аддзелах.

І тут, у культмагу, таксама вялікі уплыў на работу прадаўцоў Людмілы Дзяшук і Клаўдзіі Баравіковай робіць Станіслаў Канстанцінавіч. Ён дапамагае ім і добрым словам і асабістым прыкладам. І поспехі дасягнуты значныя. Калі за пяць месяцаў 1960 года работнікі спажывецкай кааперацыі раёна прадалі кніг на суму 13 680 рублёў (у новых грошах), то за гэты ж час 1961 года — амаль на 17 тысяч рублёў. 300 навагрудчан атрымліваюць падпісныя выданні.

Ініцыятыўны таваразнаўца імкнецца палепшыць кніжны гандаль у сельскай мясцовасці. Станіслаў Русілевіч часта бывае ў найбольш буйных кніжных аддзелах магазінаў вёсак Нягневічы і Усялюб.

Добра працуе кніжны магазін у рабочым пасёлку Бярозаўка, які абслугоўвае рабочых і служачых шклозавода «Нёман». Прадавец Марыя Левіна сама многа чытае і ўмее параіць пакупніку кнігу.

**Д. ЗІНГЕР.**

БЕЛАРУСКІЯ КРАЯВІДЫ. На Заходняй Дзвіне непадалёк ад полацкага Нафтабуда. Фота М. МІНКОВІЧА.

## УКРАІНСКАЯ КНІГА У ГОМЕЛІ

У Гомельскім цэнтральным кніжным магазіне адкрыты аддзел літаратуры на ўкраінскай мове. Тут ёсць вялікі выбар мастацкай літаратуры: творы Тараса Шаўчэнкі, Івана Франко, Панаса, Мірнага, Лесі Украінкі, Міхайла Кацюбінскага, савецкіх украінскіх пісьменнікаў.


Галоўны рэдактар Нічыпар ПАШКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: Заір АЗГУР, Аляксандр БУТАКОЎ, Кастусь ГУБАРЭВІЧ, Васіль ІВАШЫН, Аркадзь МАРЦІНОВІЧ (адказны сакратар), Пятро ПРЫХОДЗЬКА, Раман САБАЛЕНКА (намеснік галоўнага рэдактара), Мікола ТКАЧОЎ, Янка ШАРАХОЎСКІ, Іван ШАЦІЛА, Рыгор ШЫРМА.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: г. Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—3-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 3-25-25, адказнага сакратара—3-25-25, аддзела літаратуры—3-22-04, аддзела мастацтва—3-24-62, аддзела культуры—3-20-54, выдавецтва—3-19-52, бухгалтэрыі—3-11-03.

«Літаратура і мастацтва» выходзіць два разы на тыдзень: у аўторак і пятніцу.

АТ 03646

Друкарня імя Сталіна.